Ostrogorski Centre
BelarusDigest



# Дыстанцыйная адукацыя ў Беларусі: стан, праблемы і перспектывы

## Яраслаў Крывой

Аналітычны дакумент 10 | 9 сакавіка 2017



Фота: www.resta.by, www.northeastern.edu

Мінск-Лондан
2017

# Змест

# Падзякі

Гэтае даследаванне было падтрыманае грантам Амбасады Нідэрландаў у Польшчы і выкананае Цэнтрам Астрагорскага ў межах падрыхтоўкі да канферэнцыі "Адукацыя як права чалавека: мадэрнізацыя вышэйшай адукацыі ў адказ на выклікі XXI стагоддзя" (13 снежня 2016 года, Мінск). Аўтар хацеў бы падзякаваць Алесі Руднік за дапамогу ў даследаванні і ўсім удзельнікам канферэнцыі за ідэі і прапановы, выказаныя падчас абмеркавання гэтага дакумента.

# Рэзюмэ


- У савецкія часы ў Беларусі вялікую папулярнасць мела завочнае навучанне – Савецкі Саюз ганарыўся тым, што першым у свеце стварыў магчымасць атрымання ўсіх адукацыйных ступеняў завочна.

- Сістэма завочнага навучання застаецца папулярнай, аднак выкарыстанне дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі мала пашыранае ў параўнанні з суседнімі краінамі.

- Укараненне дыстанцыйнага навучання ў Беларусі дазволіць атрымліваць адукацыю больш шырокім колам грамадства, у тым ліку тым, хто з-за абмежаваных фізічных ці эканамічных магчымасцяў не можа вучыцца на стацыянарнай аснове.

- Глыбока ўкаранёная сістэма завочнага навучання, добрае тэхнічнае абсталяванне ўніверсітэтаў і шырокі доступ насельніцтва да хуткага інтэрнэта ствараюць добры падмурак для развіцця якаснай сістэмы дыстанцыйнай адукацыі.

- На шляху да якаснай сістэмы дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі неабходна стварыць адпаведную заканадаўчую базу, арганізаваць дадатковую адукацыю спецыялістаў у сферы адукацыі і пашыраць супрацу ўніверсітэтаў з кампаніямі, якія працуюць у сектары высокіх тэхналогіяў.

# Дыстанцыйная адукацыя ў Беларусі: кантэкст

Пасля перамогі рэвалюцыі 1917 года савецкія ўлады радыкальна павялічылі ўзровень пісьменнасці ў СССР. Пісменнасць узрасла з 56% у 1916 годзе да 99% на пачатку 1970-х. У дадатак да абавязковай васьмігадовай адукацыі, шырокае развіццё атрымала завочная адукацыя, якая дазваляла спалучаць працу з адукацыяй для шырокіх масаў працоўных.

Беларусь захавала высокі працэнт атрымання вышэйшай адукацыі і займае высокую у параўнанні з іншымі краінамі СНД пазіцыю ў індэксе чалавечага развіцця. Паводле дадзеных 2014 года каля 90% насельніцтва мелі сярэднюю ці вышэйшую адукацыю[1]. Згодна з Legatum Prosperity Index 2016, Беларусь апераджае Расію, Украіну, Літву і некаторыя іншыя краіны Еўразвязу па доступе да адукацыі, якасці адукацыі і чалавечым патэнцыяле[2]. Аднак адукацыя ў Беларусі мае шэраг сур'ёзных праблемаў, бо ўніверсітэты жорстка рэгулююцца дзяржавай, недастаткова інтэграваныя ў агульнаеўрапейскую адукацыйную прастору, а сама адукацыя, асабліва па гуманітарных дысцыплінах, часта не адпавядае патрабаванням рынка працы.

> Студэнты завочнага аддзялення ў Беларусі пераважна не карыстаюцца інтэрактыўнымі сродкамі навучання, не маюць гнуткага графіку і магчымасці стварэння індывідуальнай праграмы навучання

У Беларусі захаваная сістэма завочнага навучання, пры якой студэнты наведваюць заняткі раз на некалькі месяцаў, каб здаць іспыты. На сённяшні момант 61% беларускіх студэнтаў атрымліваюць дзённую адукацыю, у той час як завочна навучаюцца 39,1%.[3] Аднак класічнае разуменне дыстанцыйнай адукацыі цесна звязанае з актыўным выкарыстаннем тэхналогій.[4] Студэнты завочнага аддзялення ў Беларусі пераважна не карыстаюцца інтэрактыўнымі сродкамі навучання, не маюць гнуткага графіку і магчымасці стварэння індывідуальнай праграмы навучання. Па гэтай прычыне завочнае навучанне ў Беларусі нельга класіфікаваць як дыстанцыйную адукацыю.

Згодна з дадзенымі Міжнароднай рады па дыстанцыйнай адукацыі, 14% студэнтаў у свеце атрымліваюць адукацыю дыстанцыйна. Большасць універсітэтаў і іншых установаў адукацыі па ўсім свеце, у тым ліку ў суседніх з Беларуссю краінах, прапануюць дыстанцыйнае навучанне, якое часам не патрабуе папярэдняй адукацыі.

У адрозненне ад Беларусі, у Польшчы, Латвіі і Расіі існуюць асобныя інстытуты дыстанцыйная адукацыі. Так, напрыклад, польскі Віртуальны ўніверсітэт у Лодзі выпусціў ужо больш за 20 тысяч студэнтаў. У Латвіі працуе Міжнародная Балтыйская акадэмія, у якой навучаецца

[1] Human Development Reports, 2015. Belarus, URL: <http://hdr.undp.org/en/countries/profiles/BLR>

[2] Селянинов, Дмитрий, 2015. Дистанционное образование: международный опыт и возможности его использования в Республике Беларусь, Минск: Минский университет управления, с.62.

[3] Образование в Республике Беларусь (учебный год 2015/2016), Белстат, Минск, 2016, URL: <http://www.belstat.gov.by/ofitsialnaya-statistika/solialnaya-sfera/obrazovanie/operativnye-dannye_15/obrazovanie-v-respublike-belarus-uchebnyy-god-2015-2016/>

[4] Гарманова, Ольга, 2012. Организационно-методическое обеспечение дистанционного обучения, *Проблемы развития территории*, № 5 (61), с. 95.

прыкладна 8 тысяч студэнтаў. Для зручнасці, празрыстасці камунікацыі і гарантавання правоў студэнтаў і выкладчыкаў выкарыстоўваюцца навучальныя анлайн-пляцоўкі, такія як Moodle. Развітыя краіны імкнуцца карыстацца новымі тэхналогіямі і адаптаваць іх у сферы адукацыі, у той час як у беларускай адукацыі выкарыстоўваюцца толькі асобныя элементы дыстанцыйнага навучання.

Сярод перавагаў дыстанцыйнай адукацыі можна адзначыць:

- мабільнасць - незалежнасць ад часу і месцазнаходжання;
- гнуткасць - магчымасць індывідуальнай адаптацыі навульнай праграмы;
- тэхналагічнасць - выкарыстанне інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій у працэсе навучання;
- інтэрактыўнасць - ахоп вялікай аўдыторыі і ўзаемадзеянне з ёй;
- роўнасць - магчымасць навучання для розных групаў насельніцтва;
- эканамічнасць - нізкія кошты на адукацыю[5].




*Крыніца: Карыстальнікі шырокапалоснага Інтэрнэта на 100 чалавек, 2000-2014. Афіцыйная старонка Міжнароднага саюза электрасувязі*

Укараненне якаснай дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі дазволіла б значна пашырыць магчымасці атрымання адукацыі, бо такія паказнікі, як месца пражывання, матэрыяльная забяспечанасць і стан здароў’я не былі б перашкодай для навучання[6]. Паводле некаторых дадзеных, дыстанцыйнае навучанне эканоміць час на 35-45%[7]. Адпаведна, гнуткі графік і магчымасць стварэння індывідуальнага плану дыстанцыйнага навучання дазволіць студэнтам сумяшчаць адукацыю з працай.

Паводле Міжнароднага саюза электрасувязі, Беларусь знахозіцца на 31 месцы ў свеце па колькасці карыстальнікаў шырокапалоснага інтэрнэта, апераджаючы па гэтым паказніку шэраг краінаў Еўрасаюза, такія як Данія і Аўстрыя.[8] У краіне вельмі імкліва развіваецца сектар высокіх тэхналогіяў з канкурэнтназдольнымі экспартна-арыентаванымі

[5] Гарманова, Ольга, 2012. Организационно-методическое обеспечение дистанционного обучения, *Проблемы развития территории*, № 5 (61), с. 95.

[6] Дорохова, А., и Романенко, Л. В., 2015. Дистанционное обучение в республике Беларусь в контексте болонского процесса, Гомель: Гомельский государственный технический университет имени П. О. Сухого, С. 294-295.

[7] Селянинов, Дмитрий, 2015. Дистанционное образование: международный опыт и возможности его использования в Республике Беларусь, Минск: Минский университет управления, с.63.

[8] International Telecommunication Union official website, 2016. Fixed-broadband subscriptions 2000-2014, URL: <http://www.itu.int/en/ITU-D/Statistics/Documents/statistics/2015/Fixed_broadband_2000-2014.xls>




Панэль па дыстанцыйнай адукацыі на 4-й штогадовай галандска-беларуска-польскай канферэнцыі “Адукацыя як права чалавека: мадэрнізацыя вышэйшай адукацыі ў адказ на выклікі XXI стагоддзя” (© Цэнтр Астрагорскага)

прадпрыемствамі.[9] Напрыклад, сусветна вядомая аплікацыя Viber была распрацаваная ў Беларусі. Беларусь таксама мае невялікую шчыльнасць насельніцтва – 50 чалавек на км$^2$, што значна менш, чым, напрыклад, у Нідэрландах (393 чал./км$^2$) і Польшчы (124 чал./км$^2$). Гэта робіць дыстанцыйную адукацыю больш актуальнай, бо яна дазваляе пазбягаць доўгіх падарожжаў.

[9] Keller, Eva, 2016. Belarusian Tech Companies Lead a Global Technological Advance in Outsourcing and Product Development, 11 October 2016, *Emerging Europe*, URL: <http://emerging-europe.com/regions/belarus/belarusian-tech-companies-lead-a-global-technological-advance-in-outsourcing-and-product-development/>

# Сучасны стан дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі

Згодна з рэдакцыяй Кодэксу “Аб адукацыі” 2013 года дыстанцыйная адукацыя – гэта форма навучання, якая прадугледжвае актыўнае выкарыстанне сучасных камунікатыўных і інфармацыйных тэхналогій[10]. Дыстанцыйнае навучанне ў Беларусі прапануюць 19 універсітэтаў[11]. Першае месца па колькасці студэнтаў дыстанцыйнай формы навучання займае БНТУ, адкуль у 2014 годзе выпусцілася каля тысячы навучэнцаў.

У 2000 годзе пры Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце быў адкрыты Міжнародны інстытут дыстанцыйнай адукацыі (МІДА), мэтай якога стала развіццё новай формы навучання. У 2001 годзе была набраная першая дыстанцыйная група, якая выпусцілася ў 2006 годзе. З 2005 г. інстытут прапануе дыстанцыйна атрымаць ступень магістра. Ужо з 2014 года магістратура МІДА БНТУ праводзіла навучанне па сямі розных накірунках[12]. У 2013 годзе магчымасцю дыстанцыйнага навучання ў МІДА скарысталіся больш за 1400 студэнтаў.

Першае месца па колькасці студэнтаў дыстанцыйнай формы навучання займае БНТУ, адкуль у 2014 годзе выпусцілася каля тысячы навучэнцаў

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР) знаходзіцца на другім месцы сярод ВНУ, якія прапануюць дыстанцыйнае навучанне[13]. Найбольшая колькасць дыстанцыйных студэнтаў выбірае гуманітарныя праграмы. Эканамічныя і педагагічныя спецыяльнасці дыстанцыйна можна вывучаць у прыватным Беларускім інстытуце правазнаўства (БІП). Інстытут дзяржаўнага кіравання Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь прапануе дыстанцыйную адукацыю па спецыяльнасці “Дзяржаўнае кіраванне і эканоміка”. Акрамя таго, дыстанцыйную адукацыю можна атрымаць у БДУ, БДЭУ, Гомельскім, Брэсцкім, Баранавіцкім і Полацкім дзяржаўных універсітэтах[14].

У 2011-2015 гг. праграма “Электронная адукацыя і развіццё чалавечага капіталу” была ўключаная ў Нацыянальную праграму па паскораным развіцці паслугаў у сферы інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій. Галоўнай мэтай праграмы з’яўляецца павышэнне даступнасці і якасці адукацыі, у тым ліку праз сродкі дыстанцыйнага навучання[15].

У маі 2015 года, калі Беларусь стала часткай Балонскага працэсу, быў распрацаваны план па развіцці адукацыі ў розных кірунках. У тым ліку

[10] Кодекс Республики Беларусь об образовании: Кодекс Республики Беларусь, 2011, № 243-З. Национальный реестр правовых актов Республики Беларусь, № 13, 2/1795.

[11] Сычев, А. В., 2015. Электронное дистанционное обучение – проблемы и перспективы, *Проблемы современного образования в техническом вузе: материалы IV Республиканской научно-методической конференции*, Гомель, 29–30 октября 2015 года: ГГТУ, С. 25–30.

[12] Международный институт дистанционного образования, URL: <http://www.bntu.by/mido/item/mido.html>

[13] Около 10-12 ВУЗов в Беларуси предлагают новую форму обучения - дистанционную. Какие наиболее востребованные специальности?, URL: <http://www.ctv.by/distancionnoe-obuchenie-norma-ili-alternativa>

[14] Тамсама.

[15] Садовская, М. Н., 2013. Проблемы внедрения электронного обучения в Беларуси, *Инновационное развитие экономики: предпринимательство, образование, наука: сборник научных статей*, URL: <http://tinyurl.com/jm83urq>




Праект “Разумны клас” ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, запушчаны ў супрацоўніцтве з Samsung і MTC (© www.tut.by)

было разгледжана пытанне дыстанцыйнага навучання. Міністэрства адукацыі распрацавала Канцэпцыю інфарматызацыі сістэмы адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь[16]. Згодна з дадзенай канцэпцыяй, запланаваная актыўная інфарматызацыя адукацыі, стварэнне адзінай агульнай навучальнай пляцоўкі.

Сектар нефармальнай адукацыі часам разглядаецца як больш схільны да выкарыстання інавацыйных тэхналогіяў,[17] але за некаторымі выключэннямі дыстанцыйная адукацыя амаль не выкарыстоўваецца гэтымі ініцыятывамі.[18] Эксперты адзначаюць, што “расчаравальна нізкі ўзровень развіцця дыстанцыйнай адукацыі і даволі высокі патэнцыйны попыт на e-learning сярод беларускай моладзі ствараюць нядрэнныя перспектывы для інстытутаў, якія выходзяць на гэты рынак”.[19] Паспяховыя прыклады дыстанцыйнай адукацыі ўключаюць карпаратыўныя праграмы кшталту ўніверсітэта EPAM і сумеснага онлайн курс SYMPA і Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, які дазваляе атрымаць крэдыты у агульнаеўрапескай сістэме ECTS.[20] Беларускія ўніверсітэты, такія як Міжнародны інстытут дыстанцыйнай адукацыі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, таксама актыўна займаюцца адкрыццём філіялаў у іншых краінах, ад рэгіёну былога Савецкага Саюза (Таджыкістан, Грузія) да больш далёкіх краінаў (напрыклад, Егіпет), дзе выкладанне вядзецца на англійскай мове.[21]

[16] Дорохова, А., и Романенко, Л. В., 2015. Дистанционное обучение в республике Беларусь в контексте болонского процесса, Гомель: Гомельский государственный технический университет имени П. О. Сухого, С. 294-295.

[17] Карпиевич, Дмитрий, 2009. Субъекты неформального образования: ключевые игроки и возможные направления для сотрудничества, *Адукатар*, №. 16, С. 9.

[18] Крывой, Яраслаў, і Смок, Вадзім, 2016. Нефармальная адукацыя ў Беларусі: пашырэнне прасторы навучання, Цэнтр Астрагорскага, аналітычны дакумент №6, 28 верасня 2016 года, URL: <http://ostro.by/wp-content/uploads/2016/11/Non-formal-education.pdf >

[19] Дунаев, Владимир, 2009. Перспективы создания независимого университета в Беларуси, *Адукатар*, No. 16, С. 18.

[20] First Graduation of SYMPA/EHU Online Course, 5 April 2016, URL: <http://sympa-by.eu/en/articles/first-graduation-sympaehu-online-course.html>

[21] Прэзентацыя дырэктара Інстытута дыстанцыйнай адукацыі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Ігара Сацікава, відэа 4-й штогадовай галандска-беларуска-польскай канферэнцыі “Адукацыя як права чалавека”, Belarus Digest, 27 студзеня 2017 года, URL: <http://belarusdigest.com/story/video-4th-annual-dutch-belarusian-polish-conference-education-human-right-28874>

# Праблемы дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі

Нягледзечы на існаванне заканадаўчай базы, а таксама асобных практык дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі, існуюць перашкоды для яе далейшага развіцця. Асноўныя праблемы ў сферы дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі звязаныя з трыма фактарамі: чалавечым, арганізацыйным і матэрыяльна-тэхнічным.

*Чалавечы фактар* адыгрывае адну з найбольш важных роляў ва ўсталяванні і развіцці інавацый. У сферы дыстанцыйнай адукацыі ўплыў чалавечага фактару звязаны з некалькімі кампанентамі.

**Важнай праблемай з’яўляецца адсутнасць празрыстага заканадаўчага рэгулявання дыстанцыйнай адукацыі**

Па-першае, для ўвядзення паўнавартаснай сістэмы дыстанцыйнай адукацыі і яе аптымізацыі неабходныя адукаваныя і кампетэнтныя людзі. Колькасць такіх экспертаў у Беларусі вельмі малая, і ў большасці сканцэнтраваная ў сферы інфармацыйных тэхналогій. Гэта прыводзіць да ўзнікнення праблемы прадстаўленасці розных дысцыплін у сістэме дыстанцыйнай адукацыі.

Па-другое, супрацоўнікі ўніверсітэтаў не ўмеюць альбо не жадаюць карыстацца тэхналогіямі дыстанцыйнай адукацыі. Адсюль вынікае праблема няздольнасці “раскрыцця выкладчыцкага патэнцыялу” і камунікацыі са студэнтамі[22]. Трэці недахоп - гэта негатоўнасць кіраўніцтва ўніверсітэтаў да развіцця сістэмы дыстанцыйнага навучання. Часам гэтая праблема звязаная з неразуменнем паняцця дыстанцыйнай адукацыі[23].

Асноўная праблема ў сферы арганізацыі дыстанцыйнага навучання заключаецца ў адсутнасці рознаўзроўневай структуры і стратэгіі развіцця на дзяржаўным узроўні. Неабходна стварыць нацыянальны цэнтр дыстанцыйнай адукацыі (як, напрыклад, зроблена ў Польшчы), цэнтры па падрыхтоўцы выкладчыкаў, а таксама лакальныя цэнтры дыстанцыйнай адукацыі[24]. Мясцовыя цэнтры ў першую чаргу павінны быць накіраваныя на дапамогу па распрацоўцы вучэбна-дапаможных і метадычных матэрыялаў ў электроннай форме. Іншай праблемай ёсць навучанне супрацоўнікаў упэўненай працы з новымі тэхналогіямі. У Нідэрландах падрыхтоўкай, каардынацыяй і зменай ведаў займаецца Міністэрства адукацыі. Яно мае адмысловы партал па дыстанцыйным навучанні, які дапамагае каардынаваць і абменьвацца ведамі пра дыстанцыйную адукацыю.[25] Акрамя таго, у кожным універсітэце павінна быць служба тэхнічнай дапамогі па карыстанні навучальнай пляцоўкай.

---

[22] Садовская, М. Н., 2013. Проблемы внедрения электронного обучения в Беларуси, *Инновационное развитие экономики: предпринимательство, образование, наука: сборник научных статей*, URL: <http://tinyurl.com/jm83urq>

[23] Навасад, Вольга, 2013. Дыстанцыйнае навучанне ў Беларусі: магчымасці і праблемы, *Твой Стыль*, URL: <http://www.t-styl.info/by/115/Education/10564/>

[24] Жук, А. И., 2002. Концептуальные основы создания и развития дистанционного образования в Республике Беларусь, Минск: Белорусский государственный университет, С. 4-17.

[25] Прэзентацыя Нінке Кройдэрынк (Універсітэт Амстэрдама, Нідэрланды), відэа 4-й штогадовай галандска-беларуска-польскай канферэнцыі “Адукацыя як права чалавека”, Belarus Digest, 27 студзеня 2017 года, URL: <http://belarusdigest.com/story/video-4th-annual-dutch-belarusian-polish-conference-education-human-right-28874>

*Матэрыяльна-тэхнічны фактар* у сістэме дыстанцыйнай адукацыі адлюстроўвае некалькі праблемаў. Па-першае, гэта недахоп інвестыцый і дзяржаўных укладанняў у адукацыю. Адсюль вынікае праблема незабяспечанасці ўніверсітэтаў тэхнічным абсталяваннем, якое неабходна для правядзення дыстанцыйных відэа-лекцый, прэзентацый і г.д. Па-другое, адсутнасць кваліфікаваных спецыялістаў адбіваецца на немагчымасці выкарыстання новых формаў і метадаў дыстанцыйнай адукацыі[26]. Іншая праблема звязаная з кіраваннем працоўнай нагрузкай людзей, якія займаюцца вытворчасцю навучальных матэрыялаў для дыстанцыйнага навучання. Неабходна пераканаць педагогаў, што дадатковы час, выдаткаваны на іх стварэнне, пазней акупіцца дзякуючы паляпшэнню якасці, змяншэнню часу на падрыхтоўку і павышэнню эфектыўнасці. Грошы і час – гэта неабходныя інвестыцыі для стварэння новых ініцыятываў.

Адсутнасць эфектыўных адзіных унутрыўніверсітэцкіх платформаў (такіх як Moodles ці Blackboard) для дыстанцыйнай адукацыі з’яўляецца дадатковай перашкодай. На сённяшні момант беларускія ўніверсітэты анлайн прапануюць расклад заняткаў, пэўныя матэрыялы і магчымасць звязацца з выкладчыкамі. У рэальнасці, частка анлайн-рэсурсаў недасяжная для студэнтаў. Так, камунікацыя выкладчыка і студэнта часта адбываецца не праз платформу, а ў сацыяльных сетках, што не адпавядае прынцыпу бяспекі вучэбнай камунікацыі.

На думку экспертаў у гэтай галіне, важнай праблемай з’яўляецца адсутнасць празрыстага заканадаўчага рэгулявання дыстанцыйнай адукацыі. Дыстанцыйная адукацыя рэгулюецца на мясцовым узроўні, бо адсутнічае нацыянальнае заканадаўства.[27] Для паўнавартаснага функцыянавання сістэмы дыстанцыйнай адукацыі неабходна распрацаваць нарматыўную базу на дзяржаўным узроўні, якая прадугледжвае рэгуляванне і стымуляцыю дыстанцыйнага навучання[28]. Наступнае пытанне - гэта кошт дыстанцыйнай адукацыі. Нягледзечы на значную эканомію матэрыяльных і нематэрыяльных рэсурсаў, дыстанцыйная адукацыя ў Беларусі каштуе не нашмат менш за дзённую[29]. Напрыклад, навучанне ў БНТУ на дыстанцыйнай аснове будзе каштаваць каля $520 у год. Для некаторых групаў насельніцтва, напрыклад для людзей з інваліднасцю, такая сума не заўсёды даступная.

У Беларусі на сённяшні момант існуе добры падмурак для распрацоўкі якаснай сістэмы дыстанцыйнай адукацыі. Большасць універсітэтаў мае базавае тэхнічнае абсталяванне, доступ у Інтэрнэт. Трэцяя частка беларускіх універсітэтаў ужываюць элементы дыстанцыйнай адукацыі. Значная колькасць насельніцтва Беларусі мае доступ да хуткага інтэрнэта. Аднак паляпшэнне і развіццё сферы дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі патрабуе шмат часу і сродкаў. Для гэтага неабходнае прыцягненне матэрыяльных, тэхналагічных, чалавечых і арганізацыйных рэсурсаў.

---

26 Дорохова, А., и Романенко, Л. В., 2015. Дистанционное обучение в республике Беларусь в контексте болонского процесса, Гомель: Гомельский государственный технический университет имени П. О. Сухого, С. 294-295.

27 Відэа 4-й штогадовай галандска-беларуска-польскай канферэнцыі “Адукацыя як права чалавека”, Belarus Digest, 27 студзеня 2017 года, URL: <http://belarusdigest.com/story/video-4th-annual-dutch-belarusian-polish-conference-education-human-right-28874>

28 Тамсама.

29 Международный институт дистанционного образования, URL: <http://www.bntu.by/mido/item/mido.htmlhttp://www.bntu.by/mido/item/mido.html>

# Рэкамендацыі па развіцці дыстанцыйнай адукацыі

На шляху да якаснай сістэмы адукацыі ў Беларусі варта зрабіць наступныя крокі:

- **Распрацоўка нарматыўнай базы**
  Нягледзечы на фармальную ўзгадку ў Кодэксе аб адукацыі, сістэма дыстанцыйнага навучання ў Беларусі патрабуе асобнага рэгулявання і стымуляцыі. Заканадаўства аб адукацыі павінна ўключаць рэкамендацыі па арганізацыі дыстанцыйнага навучання ва ўніверсітэтах, а таксама апісанне сістэмы маніторынгу. Важна, каб заканадаўства закранала пытанне фінансавання дыстанцыйнай адукацыі. Акрамя таго, павінна быць апісаная сістэма дыстанцыйнай адукацыі (ад прафесійна-тэхнічнай да вышэйшай).

- **Экспертная дапамога**
  Нядаўняе далучэнне Беларусі да Балонскага працэсу дазваляе пашыраць кантакты і абменьвацца вопытам у адукацыйнай сферы. Для паўнавартаснага развіцця сістэмы дыстанцыйнай адукацыі Беларусі неабходна падрыхтаваць спецыялістаў у сферы распрацоўкі стратэгіі дыстанцыйнай адукацыі для ўніверсітэтаў з улікам асаблівасцяў кожнай навучальнай установы і рэгіёну. Гэта магчыма рэалізаваць пры наяўнасці экспертнай дапамогі ў форме навучальных візітаў, абменаў і рэкамендацый.

- **Стварэнне цэнтра дыстанцыйнай адукацыі**
  Адпаведным органам ўлады варта ўлічыць перадавы досвед іншых краінаў і стварыць спецыяльны цэнтр, які будзе каардынаваць і забяспечваць развіццё дыстанцыйнай адукацыі ў Беларусі і праводзіць трэнінгі для спецыялістаў у галіне адукацыі.

- **Укараненне дыстанцыйнай адукацыі**
  Неабходна забяспечыць стымуляванне інвестыцый у сферу адукацыі і шырэйшы ўдзел прыватнага сектара. Для эфектыўнага функцыянавання сістэмы дыстанцыйнай адукацыі патрабуецца гатоўнасць і падтрымка кіраўніцтва ВНУ да рэфармавання і ўвядзення новых форм навучання, а таксама падрыхтоўка выкладчыкаў і другіх супрацоўнікоў ВНУ да сродкаў камунікацыі і адукацыі з дапамогай тэхналогій.

# Пра аўтара

**Яраслаў Крывой** – заснавальнік Цэнтра Астрагорскага, прафесар універсітэта Вэст Лондан (University of West London) і сябар Акадэміі вышэйшай адукацыі (FHEA). Выпускнік Гарвардскай школы права, працаваў у міжнародных юрыдычных фірмах і выкладаў права ў Вялікабрытаніі, Расіі, Беларусі, Шры-Ланцы, Японіі ды Злучаных Штатах Амерыкі больш за дзесяць гадоў. Паходзіць з Мінску. Вэбсайт Яраслава – www.kryvoi.net. Галіны экспертызы: адукацыя, міжнароднае публічнае права, вырашэнне камерцыйных спрэчак, бізнэс-клімат.

# Пра Цэнтр Астрагорскага

Цэнтр Астрагорскага – прыватная некамерцыйная арганізацыя, якая займаецца праблемамі, з якімі сутыкаецца Беларусь у часе свайго пераходу да рынкавай эканомікі і вяршэнства права. Праца цэнтра накіраваная на дасягненне практычных вынікаў.

Цэнтр з’яўляецца першай “фабрыкай думкі”, заснаванай беларусамі, якія атрымалі адукацыю на Захадзе і жывуць у Беларусі і Еўрапейскім саюзе. Аналітыкі, якія працуюць у Мінску, Варшаве, Лондане і Берліне, разумеюць выклікі трансфармацыі ў рэгіёне, бо самі прайшлі праз іх. Атрымаўшы адукацыю ў вядучых універсітэтах свету, эксперты цэнтра выпрацавалі культуру і практычныя здольнасці, неабходныя для аналізу паводле заходніх стандартаў.

Цэнтр мае на мэце папулярызацыю рэформаў і мыслення, якое дапаможа зрабіць эканоміку больш канкурэнтнай, кіраванне больш эфектыўным, а таксама будзе спрыяць інтэграцыі беларускіх навукоўцаў і аналітыкаў у міжнародную навуковую супольнасць.

Інтэрнэт-старонка Цэнтра Астрагорскага – www.ostrogorski.org.

